# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

4 лютага 1994 г. № 5 (3727) Кошт 50 руб.


## УСЁ РОБІЦЦА З-ПАД ПАЛКІ

***«Вазьміце Беларусь, дзе тэрор дасягнуў вышэйшай мяжы і дзе няма людзей, якія вераць у добрае будучае, бо ўмовы жыцця пагаршаюцца з кожным днём. Карміцца няма чым, у сталоўках памыі, жалаванне затрымліваецца месяцамі і шмат іншага. Дзе ж абяцаны рай? А побач з гэтым, тыя, хто пры ўладзе, жывуць іначай. Ім усё можна...» /З ліста Максіму Горкаму з Беларусі, напісанага ў 1930 годзе/***

**5**

## БЕЗ АЛЬТЭРНАТЫВЫ. БЕЗ АПАЗІЦЫІ. АЛЕ — З НАДЗЕЯЙ.

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ: «Палітычная лексіка ўторгваецца ў жыццё творчага саюза, ды яшчэ прывід шчэміцца — той, які блукае па краіне, — прывід рынку. Але ёсць надзея, што музыка захавае сваю размаітасць і самакаштоўнасць, якую сілкуюць не апазіцыйныя ідэі або непрадказальныя альтэрнатывы, а жывіць вечны й невытлумачальны плюралізм талентаў».***

**10—11**

## БЕРАЖЫ ЯГО, БОЖА!

***Старонкі з пісьменніцкага дзённіка Вячаслава АДАМЧЫКА.***

**13—15**





*А.Куляшоў і А.Пысін. 1972 г.*



*А.Куляшоў. 1943 г.*

# «Я, СВЕДКА ЎСІХ ПАДЗЕЙ...»

## ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА

6 лютага споўнілася б 80 гадоў народнаму паэту Беларусі, аднаму з самых слынных майстроў паэтычнага слова Аркадзю Куляшову. На жаль, вось ужо шаснаццаць гадоў Аркадзя Аляксандравіча няма з намі. Ён пайшоў з жыцця заўчасна, як кажуць, на самым мастакоўскім узлёце.

Пайшоў, а творы засталіся. Жыве паэзія Аркадзя Аляксандравіча! Жыве песняй «Алеся»... Жыве радкамі, што ў наш тлумны і супярэчлівы час прыносяць душэўнае пастаянства, раўнавагу, дазваляюць аптымістычна глядзець на свет і людзей.

Паэт дваццатага стагоддзя, А. Куляшоў упэўнена крочыць і ў стагоддзе наступнае, дваццаць першае, да якога дажыць яму не пашчасціла, але ў якое — верыцца! — упэўнена ўвойдзе яго ПАЭЗІЯ.

Адзначаючы 80-годдзе з дня нараджэння А. Куляшова, змяшчаем развагі пра яго жыццёвы і творчы шлях «Пасада цяжкая паэта», напісаныя Эдзі Агняцвет (стар. 6-7), а таксама шэраг здымкаў, зробленых у розныя гады фотакарэспандэнтам «ЛіМа» Уладзімірам Крукам, з якіх паўстае незабыўны воблік Аркадзя Аляксандравіча.



*А.Куляшоў, Я.Колас і П.Броўка.*

## ЛАЎРЭАТЫ ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ»

**Рэдакцыя часопіса «Маладосць» разгледзела публікацыі 1993 года і прысудзіла прэміі за лепшыя творы. Лаўрэатамі на гэты раз сталі: Ігар Пракаповіч /кніга вершаў «Рэха малітваў» у «Бібліятэцы часопіса «Маладосць»/, Таццяна Мушынская /кніга крытыкі ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» «Гаркавы смак ісціны»/, Барыс Лагода /апавяданні, N 4/, Сяргей Квіткевіч /нарыс «Як я быў настаўнікам», N 6/, Наталля Салаўёва /мастацкае афармленне N 6 часопіса, NN 1, 5, 6, 7, 11 «Бібліятэкі часопіса «Маладосць»/.**

## ПРА НАШ РОДНЫ МІНСК

**Камплект з дванаццаці паштовак з выявамі нашай сталіцы выпусціла выдавецтва «Беларусь». Падобныя выданні з'яўляліся і раней. Але разглядаеш здымкі, зробленыя А. Ліхтаровічам, В. Ганчарэнкам, В. Грабяньковым, і з прыемнасцю зазначаеш для сябе, што гэтыя своеасаблівыя візітныя карткі горада адлюстроўваюць не толькі звыклыя вуліцы, палацы, як гэта практыкавалася калісь, а і помнікі, на якія яшчэ нядаўна не шмат звярталася ўвагі. Прынамсі, на паштоўках ёсць Праваслаўная царква Пятра і Паўла, Рымска-каталіцкі Траецкі касцёл /св. Роха/ на Залатой Горцы, Рымска-каталіцкі касцёл св. Сымона і св. Алены на плошчы Незалежнасці.**

## УРОК НЯСКОРАНАГА ДУХУ



**Як мы паведамлялі ўжо, выдавецтва «Мастацкая літаратура» сумесна з СШ N 11 горада Мінска /да гэтай важнай справы падключылася і рэдакцыя «Настаўніцкай газеты»/выращылі правесці шэраг прэм'ер найбольш значных кніг, якія выйшлі ў «МЛ» летась, ператварыўшы гэтае важнае мерапрыемства ў свайго роду ўрокі Адраджэння. Першы з іх называўся «Мацярынскае сэрца» і прысвячаўся кнізе У. Зянько «Спадчына маёй маці».**

**І вось чарговы ўрок — урок няскоранага духу. Адбыўся ён у Літаратурным музеі Янкі Купалы. І невыпадкова, што менавіта ў сценах Купалавага дома. Школьнікі прыйшлі на свята кнігі «Жыве Беларусь» Я. Купалы, якая пабачыла свет дзякуючы складальніку і аўтару прадмовы В. Рагойшы.**

**Вячаслаў Пятровіч і адкрыў гэтую сустрэчу, расказаўшы, як ідэйныя «цнатліўцы» да нядаўняга часу не друкавалі ўсе творы народнага песняра. Найперш тыя, у якіх аўтар, так бы мовіць, не надта збіраўся ўслаўляць рэвалюцыю, паслякастрычніцкія падзеі на Беларусі.**

**Уладзіслаў Рубанаў, Генадзь Шупенька, якія выступілі затым, таксама акцэнтавалі ўвагу на невядомым Купале, падкрэсліваючы, што менавіта ў творах, якія ўвайшлі ў кнігу «Жыве Беларусь», і раскрываецца душа паэта, улюбёнага ў Бацькаўшчыну, адданага ёй.**

**Выступіў таксама прэзідэнт дабрачыннага фонду садзеяння развіццю літаратуры і культуры «Палескі смутак» Мікола Мятліцкі, па ініцыятыве якога і праводзіцца гэтыя адраджэнскія ўрокі.**

**А яшчэ самадзейныя артысты СШ N 11 спявалі песні, танцавалі, чыталі неўміручыя Купалавы радкі.**

*Выступае Вячаслаў РАГОЙША.*
*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

## ...І НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

**Тэалагічны часопіс «Рыцар беззаганнай», які выдаецца Беларускай каталіцкай грамадой сумесна з ордэнам францішканаў, стаў беларускамоўным. Першы нумар, што выйшаў і па-беларуску, прысвечаны Маці Божай і святому Максіміліяну Кольбэ, які заснаваў гэты часопіс ў дваццатыя гады ў Гародні.**

Крытыка

# УКРЫЖАВАНАЯ БЕЛАРУСЬ

## ПАЭМА ЯНКІ КУПАЛЫ «НА ДЗЯДЫ»

Ледзь не згубілася ў купалаўскай спадчыне адна невялікая паэма, прарочы сэнс мастацкіх сімвалаў якой асабліва выразна выяўляецца зараз, у канцы XX стагоддзя, у кантэксце нашых нацыянальных бедаў. Паэма «На Дзяды» была напісана ў 1912 годзе, друкавалася ў «Нашай Ніве» /1912, N 48 ад 29 лістапада/, у кнізе паэзіі «Шляхам жыцця» /1913/ у раздзеле «Байкі і аповесці» побач з паэмамі «На Куццю» і «Курган», перадрукоўвалася ў прыжыццёвых зборах твораў паэта ў 1926, 1929 і 1940 гадах, у віленскіх /заходнебеларускіх/ перавыданнях кнігі «Шляхам жыцця» ў 1923 і 1935 гадах, а затым, аж да 1989 года — толькі за межамі Беларусі /Янка Купала. Спадчына. — Нью-Йорк — Мюнхен, 1955/. Сучасныя перадрукі паэмы — часопіс «Спадчына» /1989, N 1/ і кніга выбраных твораў паэта пад назвай «Жыве Беларусь» /«Мастацкая літаратура», 1993, укладанне В. Рагойшы/.

Мала друкаваная, але ўсё ж пазначаная ў бібліяграфічных даведніках савецкага часу, паэма Купалы «На Дзяды» не стала, на жаль, здабыткам мастацкай свядомасці нашчадкаў паэта, хоць ёй і прадвызначана была свая адметная роля ў духоўным адраджэнні нацыі.

Паэма абпальвае трагізмам усведамлення лёсу Беларусі як маці, што гадуе сваіх дзяцей ахвярнаю любоўю, а ўзнагародай мае толькі пакутніцкае ўкрыжаванне. Ува ўсім хрысціянскім свеце святым пачуццём ушаноўваюць тую, што дае жыццё, прыпадабняючы яе да Маці Божай, а на гэтай горкай зямлі ўчужанелы сын здзекуецца з уласнай маці.

**Здзекі далей строіць дай жа,**
**Ласку з сэрца выжыў:**
**Суд судзіў, што я — не я ўжо,**
**І распяў на крыжы.**

Мацярынская іпастась Беларусі ў паэтычнай уяве Купалы паўстала невыпадкова. Так спрацавала генетычная памяць, што не ўсведамлялася яшчэ духоўнай традыцыяй, хоць падспудна жыла ў глыбінях нацыянальнай свядомасці ад старажытнасці — ад фальклорных уяўленняў пра маці-зямлю, ад «Трэнаса» Мялеція Сматрыцкага з яго вобразам Маці-Царквы, якую пакінулі родныя дзеці, а ў новым часе правілася ў вобліку Плачкі Яна Баршчэўскага. Гэтая памяць, як слушна заўважае Уладзімір Калеснік, абудзілася з «уздымам духоўнай актыўнасці ахопленых нацыянальна-вызваленчым рухам народаў».

У творчасці самога Купалы глыбока роднасная чалавеку-патрыёту мацярынска-жаночая прырода Айчыны, роднай зямлі спазнавалася рознымі гранямі ў шмат якіх творах. Жанчына-маці ў паэме «На Дзяды» адначасова і спрацаваная, трывушчая ў сваёй цярплівасці і ахвярнасці мацярынскай любові жанчына-сялянка /як, можа, Марыля ў «Раскіданым гняздзе»/, і княгіня, укаравананая славай мінулых вякоў /пэўная сувязь з гераіняй паэмы «На Куццю»/. Пераважае рамантычная ідэалізацыя мінулага Маці-Беларусі, што і ў блізкіх па часе напісання «На Куццю», «Над Нёманам»:

**Шла мая ў даль дзіва-сіла,**
**Як бы хвалі Нёмну;**
**На касе сваёй насіла**
**Княжацку карону.**

**. . . . . . . . . . . . . . . . . . .**

**Засядала, расцвітала**
**За гадамі годы;**
**Залатыя думкі ткала**
**З шчасця і свабоды.**

Прычыны трагедыі роднай Маці-Беларусі Купала шукае тут не ў знешніх момантах, не ў панаванні чужынскай сілы-гвалту, а ў самім народзе, у цемры ягонай прыспанай

# НЯЗГАСНЫ РАНАК ЯГО ПАЭЗІІ

**Хачу неспакойнаю хмарай грымець,**
**Маланкамі ўвесь апавіты.**

Гэтыя, акрыленыя маладосцю радкі загучалі ў 1940 годзе. І ў той жа самы час душу Аркадзя Куляшова глыбока трывожыла філасофія жыцця і смерці.

Помню пачатак вясны 1940. Пухавічы. Дом творчасці, непадобны да нашых ‘ясных Каралішчавічаў, ні, тым болей, да занадта мадэрнаванай «Іслачы». Ён стаяў у садзе, непадалёк ад рэчкі. Невялічкія пакоі не мелі ніякіх дываноў: толькі самае неабходнае і — чысціня. Светлае аблічча Куляшова гарманічна супадала з той чысцінёй.

Аднаго разу, надвячоркам, у шэрую гадзіну, я зайшла ў гасцёўню. Пацiху іграла на піяніна мелодыі любімых песень. Прыйшлі Куляшоў і Бярозкін. Аркадзь сказаў: «Я здалёк пачуў «Выхожу один я на дорогу». А ты заспявай!» Я спявала напаўголаса. Ды хіба яна з тых песень, што спяваюць на поўны голас? Куляшоў задумаўся, засмучаўся. Рэдка ў каго бачыла я /і ў пазнейшыя часы/ такія журботныя вочы. Пасля слоў «Надо мной, чтоб вечно зеленея, темный дуб склонялся и шумел». Куляшоў раптам сказаў: «Я, напэўна, буду жыць столькі ж, як Лермантаў. Я нарадзіўся праз сто гадоў пасля яго, у 1914, і памру ў яго ўзросце, у 1941».

Што гэта было? Прадчуванне немінучай бяды? Тут Бярозкін страпянуўся: «Што ты выдумляеш? Кінь, Аркадзе!» — закурыў папяросу і, як віхор, вылецеў з гасцёўні. У свае дваццаць два гады ён тонка адчуваў паэзію, высока цаніў Куляшова. Пазней, у кнізе «Звенні», з'явіцца цікавае даследаванне Р. Бярозкіна «Куляшоў і Твардоўскі», а ў 1978 выйдзе яго кніга «Аркадзь Куляшоў. Нарыс жыцця і творчасці».

Але вернемся да Лермантава. Калі выбег Бярозкін, Аркадзь ціха сказаў: «Паўтары яшчэ раз». Я зайграла мелодыю, уторыла без слоў. Аркадзь неяк асабліва пранікнёна заспяваў:

**Что же мне так больно и так трудно?**
**Жду ль чего? Жалею ли о чем?**

У яго быў абсалютны слых і прыгожага тэмбру голас. І праз дзялячынь гадоў мне помніцца той надвячорак і чуецца голас Куляшова.

...Мінуў год з нечым. 24 чэрвеня 1941, у напаўразбітай цяплушцы, мама і я ехалі з палаючага Мінска. Неба здавалася чорным ад «Месэршмітаў», якія безупынна бамбілі. Жанчыны і дзеці ляжалі на падлозе цяплушкі. Нас асабліва страшэнна абстрэльвалі, калі пад'язджалі да Пухавічаў. Ізноў Пухавічы! Але якія?! Дзеці горка плакалі. Бежанцы!

У той жа самы час па маскоўскай шашы ішлі разам: паэты Аркадзь Куляшоў і Генадзь Шведзік і малады будаўнік Мінска, мой муж Міхаіл Саламонік. Замест ваенкамата яны ўбачылі абгарэлыя сцены і вымушаны былі пайсці з Мінска. Міша ўспамінае пачатак таго цяжкага шляху. Ішлі, маўчалі. Глядзелі на грузавікі з людзьмі, у спадзяванні ўбачыць сваіх родных. Аркадзь быў вельмі ўсхваляваны, бледны. Ні мілай жонкі Ксаны, ні малых Валі і Вовы не было ў грузавых машынах. Міша не знайшоў мяне. Так прайшлі яны разам кіламетраў дзесяць-дванаццаць. Затым, пад шалёнай бамбёжкай, у развілку ля пасёлка Калодзішчы згубілі адзін аднаго...

Пэўна, у тыя трагічныя хвіліны нарадзіліся радкі, якім суджана было пачаць непаўторную паэму «Сцяг брыгады»:

**Як ад роднай галінкі**
**дубовы лісток адарваны,**
**Родны Мінск я пакінуў,**
**нямецкай бамбёжкаю гнаны.**

Паэму Куляшоў пісаў на фронце ў жніўні-верасні 1942. Ён даражыў думкай Аляксандра Твардоўскага і яму, першаму, прачытаў «Сцяг брыгады». Твардоўскі быў незвычайна ўзрушаны паэмай. Прыгадаем яго словы, сказаныя ўлетку 1944, у толькі што вызваленым Мінску, аб творы, напісаным «яшчэ маладым, але ўжо вядомым і выдатным па таленту... беларускім лірыкам Аркадзем Куляшовым. Сам франтавік, які прайшоў увесь горкі шлях нашага адступлення ад заходніх граніц да прадмесцяў Масквы, бачыў сваімі вачыма страшэнныя няшчасці, што выпалі на долю краёў і гарадоў роднай Беларусі, паэт проста і ашаламляльна расказаў аб гэтым у сваёй паэме». /Твардоўскі А. Зб. тв., том 4. М., 1960, с. 114/.

Паэт усё жыццё адчуваў сябе «На пасадзе цяжкой» — і ў франтавым бліндажы, і на Асамблеі Аб'яднаных Нацый, і за сваім пісьмовым сталом.

Дакладна сказаў пра свайго паплечніка і аднадумца Пімен Панчанка: «Вершы і паэмы Куляшова не старэюць, бо яны таленавіта ўвасобілі ў сабе і канкрэтныя адзнакі нашага часу, і авеяны дыханнем вечнасці... У Аркадзя Куляшова заўсёды было сваё бачанне свету, свой слоўнік, свае яркія метафары. Ён ніколі не быў паэтам правінцыяльным, ставіўся з маладых гадоў да літаратурнай працы сур'ёзна, з вялікай адказнасцю... У яго радках заўсёды гучала трапяткая праўда жыцця». /Уступ да кнігі «Крылы». М., 1985/.

Аркадзь Куляшоў быў чулым і добрым чалавекам. Такія ж рысы характару ў яго жонкі Аксаны Фёдараўны. У чэрвені 1950 года я апынулася ў доме творчасці Каралішчавічы дзякуючы Куляшовым. /Да гэтага я перанесла цяжкі грып/. Сям'я



*А.Куляшоў. 1971 г.*

Куляшовых займала два пакоі: меншы быў кабінетам Аркадзя Аляксандравiча. Дом творчасці быў на той час перапоўнены. Пакояў — зусім небагата. Куляшовы прапанавалі мне з малым пляменнікам свой другі пакой.

— Не толькі ж нам дыхаць лясным паветрам! — сказала Аксана. А Куляшоў усміхнуўся: — Што мне кабінет? Хіба мала месца ў лесе?

Якраз у той час Куляшоў стварыў шэдэўры лірыкі: «Вянок» — пра вялікае каханне Адама Міцкевіча і цяжкі лёс Паэта і верш «Аб любві». Дарэчы, у канцы таго ж 1950-га А. Куляшоў напісаў дзівосныя па глыбіні пачуццяў і філасофскім разуменні жыцця «Зямля і мора» і «Зямля і неба». Потым яны сапсавалі яму намала крыві, калі пайшла па загаду «зверху» новая хваля барацьбы з «безыдэйшчынай». Танку не маглі дараваць пераклад цудоўнага верша У. Сасюры «Любі Украіну». Куляшоў ледзь абараніў сваю лірыку ад бурнага націску аднаго пісьменніцкага начальніка...

У чэрвені 1950 у Каралішчавічах працавалі і адпачывалі Я. Маўр, К. Крапіва, М. Лынькоў, П. Броўка, М. Танк, П. Панчанка, М. Лужанін і Жэня Пфляўмбаўм, Я. Брыль, А. Вялюгін. А. Русецкі, які досыць доўга хадзіў халасты-нежанаты, раптам з'явіўся з залатавалосай прыгажуняй-жонкай. За сталом — віншаванні маладых, жарты.

У той час не было ніякіх дач, «маёнткаў». Жылі вясёлай сям'ёй. На ўвесь лес гучаў раскацісты смех Максіма Танка. Ён, як дзіця, радаваўся кожнай сваёй перамозе, калі, пад дрэвамі, гуляў «у чыльку».

Проза

Лідзія АРАБЕЙ

# НА БЕРАЗЕ ЛА-МАНША

АПАВЯДАННЕ



Як апынулася Вера на гэтай выставе? Можа, папракнула сябе, што зусім абабілася, што не памятае — калі была ў тэатры, а некалі ж, не зважаючы на цяжкасці жыцця, бегала на ўсе спектаклі — у драматычны, у оперны, хадзіла з сяброўкамі на канцэрты і, вядома ж, не прапускала ніводнай цікавай выставы. А цяпер? Што гэта, старасць? Яно, канечне, за шэсцьдзесят... Але яна ніяк не хоча прызнаць сябе старою, і калі аднойчы ў тралейбусе маладая маці з дзіцяткам назвала яе бабулькаю, яе ўсю ажно перасмыкнула. А маладая маці сказала прыязна:

— Падсунься, дачушка, няхай бабулька сядзе...

Бабулька, бабулька... Канечне, некалі Вера са сваіх маладых гадоў на такіх, як яна цяпер, глядзела падобна той маладой маме. Ды яшчэ і не на такіх... Ёй было семнаццаць... І пачаў да яе сватацца чалавек — гадоў пад трыццаць... Дык яна прыйшла ў такое абурэнне, была абражаная да слёз... Як ён мог, такі стары...

Уздоўж вялікай залы, дзе па сценах віселі карціны, хадзіла не шмат людзей. Найбольш маладыя, хлопцы, дзяўчаты, то там, то там спыняючыся па двое, а то і па адным. Ступалі ціха, гаварылі між сабою амаль шэптам, як у касцёле ці царкве.

Пры сцяне, на нізкім услончыку, сядзела служыцелька — з завіўкаю на сівых валасах, з белым каўнерыкам блузкі на цёмным пінжачку. Яна сачыла тут за парадкам, але ніхто яго не парушаў, і ёй, мусібыць, сумна было сядзець вось так цэлымі днямі. А можа, і радавалася спакойнай рабоце, мела недзе прыварак да пенсіі.

Вера хадзіла па гэтай выставе, спыняючыся перад карцінамі ў сціплых рамах, перад аднымі — коратка, перад іншымі даўжэй і адчувала, як свет мастака пранікае ў яе душу, адводзіць ад будзённага, прымушае нешта адчуваць. Што — яна і сама не магла разабраць, ды і не думала пра гэта, як не думаем мы, слухаючы добрую музыку, што яна гаворыць. Музыка проста кранае душу, нацягвае ў ёй нейкія струны, і яны гатовы ўжо адазвацца і на добрае, і на благое сваім чуйным гукам.

На карцінах яна бачыла чалавечыя твары... Твары выступалі з туману, з воблакаў, са струменяў дажджу... Яна бачыла чалавечыя постаці, поўныя пакут і болю... Яны былі дэфармаваныя, гэтыя постаці мужчын, жанчын — доўгія рукі, сагнутыя спіны, і дэфармавала, змучыла іх, мусібыць, пакута.

На іншых карцінах былі пейзажы, і амаль за кожным лесам, узгоркам, полем пабліскваў купалок царквы, прыносячы ў той лес, на ўзгорак, на поле прывабнасць і святасць.

Яна змалку выхоўвалася ў бязвер'і, але, сама не ведае чаму, царквы, касцёл выклікалі ў яе замілаванне. Калі заходзіла ў царкву альбо ў касцёл — не для малітвы, а з цікавасці, душу агортвала хваляванне. Чаму так? Хіба гены продкаў, якія шчыра верылі, маліліся, не загінулі ў ёй, давалі сябе адчуць? І цяпер, на гэтых пейзажах, белыя цэркаўкі з залатымі макаўкамі купалоў таксама краналі душу.

Яна прамінула яшчэ адну карціну, ужо крыху стомленая, не спыніўшыся каля яе, але калі ўжо адышла, нешта быццам зачапіла яе, і яна вярнулася. Аббегла вачыма карціну, адчуваючы ў ёй нешта знаёмае, спынілася на дзяўчыне, што была намалявана ў цэнтры, і раптам адчула, як гарачыня аблівае ўсё яе цела. Зрабілася нават крыху млосна, расплыліся фарбы, нібыта быў страчаны фокус... Яна сабрала сілы, прымусіла вочы зноў уважліва зірнуць...

У цэнтры карціны стаяла дзяўчына... У фартуху з мешкавіны паверх паласатай сукенкі. За яе спіною відаць быў змрочны куб трохпавярховага будынка на фундаменце з буйных камянёў, з маленькімі закратаванымі вокнамі... За будынкам, зусім блізка падступаючы да яго, бліскала палоска вады... А спераду, у вялікім двары, абгароджаным каменнаю сцяною, вакол дзяўчыны, горбіліся чалавечыя постаці ў паласатай вопратцы. Твараў іх нельга было разгледзець, яны наогул нагадвалі нейкіх паласатых жукоў, што поўзалі па зямлі, калупаючыся ў ёй, нешта шукаючы.

Тая, што ў цэнтры, глядзела перад сабою вялікімі шэрымі вачмі, поўнымі тугі. У яе былі каротка падстрыжаныя валасы, тонкая шыя і гэты фартух з мешкавіны... Карціна выступала нібы з туману, але ўсё было відаць на ёй выразна — і куб цаглянага будынка, і вада, на якую падаў промень сонца, і людзі-жукі, і дзяўчына. І Вера пазнала ўсё — казарму ў Шэрбуры, пабудаваную яшчэ Напалеонам, ваду праліва Ла-Манш і сябе... Так, дзяўчына, што стаяла ў цэнтры карціны, была яна... З валасамі, што пачыналі адрастаць — пастрыглі падчас цяжкай хваробы, якою перамучылася ў лагеры, у тым знакамітым фартуху з мешкавіны на паласатай сукенцы, у драўляных сабо, як іх тут называлі, на нагах.

Яна ступіла ад карціны, апусцілася на нізкі мяккі ўслончык, што былі расстаўлены па зале, сядзела, глядзела на карціну і ўспаміната. Успамінала тое, што ўсё жыццё імкнулася забыць і забыць не магла...

Другі год як яна паланянка... Немцы вывезлі яе з Мінскай турмы ў канцэнтрацыйны лагер, у Францыю... Шэрбур... Чарапічныя дахі старадаўніх будынкаў, што грудзіліся ўбаку ад лагера, ашчаціненыя гарматамі палубы караблёў, што прыплывалі ў порт з завяванага немцамі свету і часта губляліся ў туманах, якія наплывалі з праліва Ла-Манш, тугі пясок набярэжнай, каменная сцяна, што адгароджвала іх ад усяго гэтага, вышка, на якой сядзеў немец з аўтаматам, казарма, дзе яны зімою калелі ад холаду, хоць у пакоях былі каміны, але для палонных іх не палілі.

Яны, жанчыны, працавалі грузчыцамі, і калі іх вывозілі на работу, адносна вольныя французы і француженкі прыходзілі глядзець на іх. Часам прыносілі кавалак свайго хлеба — доўгага белага батона. Давалі той, якая нечым спадабалася, альбо якую болей шкадавалі. Разы два кавалак таго хлеба перапаў і ёй.

А побач, у водах Ла-Манша, насыпаныя яшчэ Напалеонам, астравы са старадаўнімі крэпасцямі, якія павінны былі абараняць Шэрбур ад англічан. На гэтыя астравы, у тыя крэпасці, з часоў Напалеона пустыя, немцы вывезлі нашых палонных, савецкіх. Тысяч шэсць. Не кармілі іх, і тыя харчаваліся слімакамі, марскімі водарасцямі. Хутка з тых тысяч засталося чалавек трыста. Тых, трыста, ужо ў сорак чацвёртым, прывезлі ў Шэрбур. Пасялілі таксама ў казарме, але ў іншай, за каменнаю сцяною. І пачалі ганяць на работы. Разам з жанчынамі...

Тыя, што засталіся, выжылі, відаць, былі самыя дужыя. І тут, у Шэрбуры, нават на зусім мізэрным пайку, крыху акрыялі.

Як яны пазнаёміліся? Здаецца, падчас работы ў яе вырвалася беларускае слова. І ён падышоў да яе, радасны, спытаўся:

— Зямлячка?..

Яна не магла сказаць пра яго, што ён вельмі худы, ён быў такі, як усе тут, і таксама, як і ва ўсіх, на ім быў фартух з мешкавіны паверх паласатай робы. Але што вылучала яго з іншых, дык гэта вочы. Яны былі вялікія, сінія і глядзелі, быццам з глыбіні душы, і відаць было, што душа гэта яшчэ жывая.

У яго быў высокі лоб, таксама кароткія, светлыя валасы, што адрасталі пасля стрыжкі, тонкія вусны, якія цяпер усміхаліся ёй. Ён быў малады і, нягледзячы на хваравіты выгляд, здзеклівае адзенне, усё роўна прыгожы. Можа, хараства яму надаваў той выраз твару — не пакутлівы і змрочны, як тут ува ўсіх, а нейкі светлы, прамяністы. Ён шчыра радаваўся:

— Зямлячка!..

— А вы адкуль? — спыталася яна.

— З Беларусі... А з якога вы горада?

— Я? З Мінска...

— А я з Віцебска...

Гэтага было даволі, каб ім зблізіцца... А потым ён пачаў яе апякаць. Ён дапамагаў ёй валачы цэглу, хапаўся за насілкі з цэментам, якія яна насіла з Вандаю — дзяўчынаю з Польшчы, дапамагаў цягаць бярвенні.

Немцы тым годам палонных ужо без дай прычыны не катавалі, не ганялі мужчын ад жанчын, толькі чулася іх адрывістае:

— Шнэлер, шнэлер!..

Яны будавалі каля порта вал і дзоты, палонныя былі іх рабочаю сілаю, і немцы глядзелі, каб рабочая сіла працавала.

Покліч жыцця... Змучаныя голадам, цяжкаю працаю мужчыны і жанчыны шукалі сустрэч. І намячаліся парачкі. І вечарамі, замест адпачынку, мужчыны і жанчыны, пралазячы праз замаскаваныя ад немцаў дзіркі ў сцяне, спатыкаліся, то пад штабялямі дошак, то ў высокай траве, якою зараслі пустыры. Немцы хоць і забаранялі такія сустрэчы, аднак вельмі не ганялі, часам рабілі выгляд, што не заўважаюць такіх парушэнняў: дысцыпліна ў лагеры залежала ад высокага начальства, а высокае начальства той год ужо больш клапацілася пра ўласны лёс. Не баяліся немцы і таго, што палонны можа ўцячы з лагера. Куды тут уцячэш, калі з трох бакоў вада — Шэрбур стаіць на паўвостраве, — калі вакол чужая зямля, чужая мова? Праўда, даходзілі чуткі, што ёсць у Францыі партызаны — макі, — ёсць Супраціўленне, але дзе ты знойдзеш тых партызан, тое Супраціўленне?

Яго звалі Сяргей, Сярожа. Яны таксама спатыкаліся, то каля тых штабялёў, то ў высокіх цыбунах незнаёмай Веры травы. На Шэрбур часта наплывалі густыя туманы, і яны, хаваючыся ў тых туманах, часам беглі да берага праліва, дзе ў іх было ўжо сваё месца — у глыбокай ямцы, выкапанай невядома кім альбо чым — можа, хвалямі ў час прыліву альбо шторму, а можа, людзьмі, якія бралі з берага пясок.

Ён прыносіў ёй хлеб. Яна не хацела браць, адмаўлялася, але ён казаў, што гэта знаёмы француз яму прыносіць, што ён ужо еў. Яна верыла і не верыла, але ела. Ён расказваў ёй пра сябе — што ён мастак, вучыўся ў Віцебску ў мастацкім вучылішчы, з Віцебска пайшоў у армію, разам з усімі студэнтамі... І вось, палон... У Віцебску засталася маці... Але хутка, хутка ўжо разаб'юць немцаў, Сталін пераможа... І ён маляваў дубчыкам на тугім сырым пяску партрэт Сталіна. І яна верыла, што Сярожа мастак, бо Сталін быў вельмі падобны. А потым яны далонямі сцiралі той партрэт, каб не ўбачылі немцы, бо чаго-чаго, а гэтага яны не даравалі б.

Іх адносіны былі шчырыя і нявінныя. Яны нават не цалаваліся, толькі часам падоўгу сядзелі, прыпаўшы шчака да шчакі, адчуваючы, як пачынаюць гарэць іхнія твары.

Аднойчы, калі яны зноў разам цягалі насілкі, ён сказаў ёй:— Я запомню цябе такой на ўсё жыццё... І калі буду жывы — намалюю цябе. Такою, як ты цяпер... У гэтым фартуху з мешкавіны...

Стрымаў свае слова, намаляваў...

Яна сядзела на тым услончыку, не маючы сілы скрануцца з месца, быццам успаміны прыгнялі яе і яна не магла зрушыцца, падняць той цяжар...

Надышло вызваленне, і іх разлучылі. Яе і шмат іншых паланянак адразу пусцілі дадому. Мужчын затрымалі для праверак. На развітанне ён горача абяцаў, што знойдзе яе, знойдзе, дзе б яна ні была... Калі будзе жывы... Але цяпер надзеі на жыццё прыбавілася, вайна выдыхалася, набліжалася перамога.

Яна чакала яго... І год, і два, і тры... Ён не абзываўся. Потым дазналася ад адной знаёмай, што жыла ў Віцебску і ведала Сярожаву маці, што Сярожа зноў у лагеры... Ужо савецкім. Сталін, партрэт якога Сярожа маляваў на тугім сырым пяску, палічыў яго здраднікам... І адправіў адбываць пакаранне.

Яна яшчэ чакала яго... А потым сустрэла Васіля... Нарадзіла сына... Цяпер ужо мае ўнучку. Былое зацягвалася туманам часу, праз які, бывала, прарывалася, часцей за ўсё у сне — казарма, іх прытулак на беразе праліва, Сярожаў твар, які быў непадобны на таго Сярожу, але яна ведала, што гэта ён.

Сяргей Каляда... Можа, гэта яго прозвішча, напісанае вялікімі літарамі на шчыце, што стаяў пры Палацы мастацтваў, падсвядома прывяло яе на выставу? Чаму ж яна, так даўно не ходзячы сюды, раптам завітала? Якая сіла прывяла? Каб сустрэцца з маладосцю, з ім?

Мусіць, яна доўга сядзела на ўслончыку, бо да яе падышла служыцелька, спытала прыязна:

— Можа, вам кепска? Я бачу, вы так даўно седзіце...

Яна нібы ачнулася, глянула на кабету. Зблізку твар выдаваў яе немаладыя гады — увесь бляклы, як выцвілы.

— Не, дзякуй, усё нармальна, — паспяшалася адказаць Вера.

Служыцелька сабралася адысці, але яна затрымала кабету.

— Скажыце, калі ласка, а гэты мастак... Дзе ён жыве? Ці можна з ім пабачыцца?

Служыцелька памаўчала, потым далікатна пачала:

— Разумееце... Гэта выстава пасмяротная... Мастак памёр... Гадоў пяць таму... Гэта сябры наладзілі... Ён жыў у Віцебску...

— Дзякуй, дзякуй... Вы не турбуйцеся, са мною ўсё нармальна, я скора пайду, — адказала яна.

— Ды сядзіце, вы нікому не перашкаджаеце, я так, падумала... — нібы апраўдвалася жанчына.

Служыцелька пайшла, а Вера ўсё сядзела, ужо гледзячы, здаецца, не на карціну, а ў самую сябе.

Неяк падумалася, што жыццё яе ўвесь час працякала нібы між пальцаў, ні на хвіліну не спыняючыся, і нібы ў вечным чаканні невядома чаго. Усё здавалася, што самае важнае наперадзе, за нейкім паваротам. Яна заўсёды чамусьці прыспешвала час, нібы падганяючы яго да сустрэчы з тым, самым важным. Так плыло, пакуль была маладзейшая, пакуль працавала. І нават калі пайшла на пенсію, зноў кацілася жыццё, як тое кола — хоць і чапляючыся за карчы, трасучыся на выбоінах, але далей, далей і — зноў — у чаканні. І раптам, цяпер, гэтае кола нібы спынілася. Яна, здаецца, толькі цяпер зразумела — тое, што нібы працякала між пальцаў, і было жыццё, што болей няма чаго чакаць, ні за якім паваротам, што наперадзе толькі старасць з яе хваробамі, а далей — тое, што чакае ўсіх — і шчаслівых і няшчасных, і багатых і бедных, і геніяў і звычайных людзей.

Чаго яна чакала, што прыспешвала? Можа, надзею на сустрэчу з Сярожам? Хоць дзе, хоць калі. Аказваецца, быў не так і далёка... І не знайшоў. Чаму? А можа, знайшоў? Пасля сталінскага лагера, ды яна была ўжо за Васілём?

Не, лёс не да канца быў да яе жорсткі. Васіль не кепскі муж, хоць падчас бывалі і крыўды. У яе ёсць сын, унучка — Леначка. Што яшчэ жанчыне трэба?

Але чаму ж тады так нядобра ўсярэдзіне, чаму так ные ў грудзях і немагчыма падняцца з гэтага ўслончыка? Як ты жыў, Сярожа? Хто прыняў твой апошні ўздых? І чаму так рана?

Яна глядзела на сваю маладосць на той карціне, і на Сярожаву маладосць... Як ні дзіўна, але і там, тады перажываліся шчаслівыя імгненні. Божа, як чакалі яны ўсе канца вайны! І, здаецца, яна не перажыла ў жыцці большай радасці, чым вызваленне. Каб можна было вярнуцца ў той міг? Не, божа барані! Яна часам чуе ад людзей, што каб даравалі ім пражыць сваё жыццё яшчэ раз, то яны з радасцю згадзіліся б. Яна не хацела б... Зусім не хацела б пражыць яшчэ адно такое жыццё. Нямецкі лагер... А потым тут, дома... Яе не прынялі ў інстытут — пабывала ж пад немцам, нахапалася чужога духу. Ды, можа, ты сама туды паехала, па сваёй волі? Ага, сама пайшла ў канцлагер... Не мела дакументаў, што арыштавалі і вывезлі яе ў канцлагер за сувязь з партызанамі, немцы такіх дакументаў не выдавалі, а на слова хто паверыць? А потым колькі шукала работы, бо — таксама не бралі. Дзіва, такая пляма ў біяграфіі. Задавалася адно пытанне, у якім было шмат падазрэння: а як гэта вы засталіся жывая? Гэта ўжо цяпер адумаліся, нават ільготы далі...

Яна зноў бачыла перад сабою чарапічныя дахі старадаўняга французскага горада, ашчаціненыя гарматамі палубы караблёў у порце, казармы, пабудаваныя яшчэ Напалеонам; глядзела на сябе ў тым фартуху з мешкавіны паверх паласатай сукенкі і, здаецца, чула гартанны нямецкі крык:

— Шнэлер, шнэлер!..

ЛІМ
ЧАСАПІС

## ДРУГОЕ ЖЫЦЦЁ «АЛЬБЫ»

**Але, таго самага славутага парку, што знаходзіцца на паўночнай ускраіне Нясвіжа, а быў *закладзены яшчэ ў другой палове* шаснаццатага стагоддзя. Па сённяшні дзень у ім зберагліся дрэвы, узрост асобных з якіх налічвае 500 гадоў. І ўсё ж у цэлым парк прыйшоў у запусценне. Цяпер яго мяркуецца адрадзіць. Праўда, беражліва паставіўшыся да самога гістарычнага помніка.**

**Комплекс турызму і адпачынку размесціцца поруч са знакамітай «Альбай» і зойме ўчастак плошчай 60 гектараў, а сама забудова — 0,7 гектара. Аўтары праекта архітэктары А. Калантай, В. Мусіенка, Ю. Мамлін пры ўдзеле А. Барадаўкі звярнулі ўвагу на тое, каб стварыць зручнасці для адпачынку і адначасова па меры магчымасці захаваць гістарычную частку парку. А тое, што яны падышлі да даручанай справы /заказчык Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўны мастацкі музей/ па-сапраўднаму творча, сведчыць прысуджэнне праекту першай прэміі на аглядзе лепшых архітэктурных работ 1993 года Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, поспех да гэтага калектыву праекціроўшчыкаў прыйшоў і на аглядзе краін садружнасці ў Ташкенце — другое месца.**

## ЦЕСНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

**11—12 студзеня 1994 г. у Варшаве адбылося другое пасяджэнне Беларуска-Польскай сумеснай кансультацыйнай камісіі па справах гісторыка-культурнай спадчыны, якая ажыццяўляе сваю дзейнасць пры паўнамоцных асобах урадаў Беларусі і Польшчы па справах гісторыка-культурнай спадчыны. У адкрыцці пасяджэння прынялі ўдзел Дзяржаўны сакратар канцыляры Прэзідэнта Польшчы сп. Анджэй Закрэўскі і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Польшчы сп. Уладзімір Сянько. На пасяджэнні старшынявў доктар Анджэй Цеханавецкі.**

**У працы камісіі галоўная ўвага была нададзена пытанням канкрэтнага ўзаемадзеяння ў справе рэгенерацыі комплексу гісторыка-культурных каштоўнасцей Нясвіжа. Апрача таго, *закраналіся канкрэтныя праблемы* інвентарызацыі беларутэнікаў і палонікаў, забеспячэння іх даступнасці для навуковых даследаванняў, а таксама арганізацыі выстаў.**

**Наступнае пасяджэнне камісіі запланавана правесці ў Беларусі ў верасні 1994 г.**

## «МОЙ МУЖ — ГІПАПАТАМ»



**На прэм'еру напярэдадні Новага года запрасіў гледачоў Гомельскі абласны драматычны тэатр. Ён паказаў спектакль паводле п'есы беларускага драматурга Анатоля Дзялендзіка «Мой муж — гіпапатам». Паставіў спектакль рэжысёр Уладзімір Караткевіч. З яго работамі гледачы ўжо добра знаёмы. Летась ён паставіў на сцэне тэатра дзесяць спектакляў, праявіўшы дзівосную актыўнасць. Частка з іх *была паказана сёлетнім летам* у Мінску і высока ацэнена крытыкамі і камісіяй Міністэрства культуры. А нядаўна калектыў вярнуўся з V Міжнароднага тэатральнага фестывалю, што прайшоў у Бранску, дзе з поспехам былі паказаны «Сцэны з сямейнага жыцця» І. Бергмана.**

*На здымку: сцэна са спектакля «Мой муж — гіпапатам».*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

## ПАГАВАРЫЛІ... БЕЗ ТВОРЦАЎ

**Як вядома, абгаварэнне творчых набыткаў, прадстаўленых у справаздачных канцэртах XI з'езда кампазітараў Беларусі, на з'ездаўскай дыскусіі не адбылося. Але праз месяц, калі ўсталяваліся ўражанні, музыказнаўцы такое абгаварэнне наладзілі. Без удзелу кампазітараў. «Круглы стол» па выніках з'езда ў Саюзе кампазітараў адбыўся 28 студзеня, меркаваннямі падзяліліся музыказнаўцы Р. Аладава, Н. Бунцэвіч, В. Савіцкая, Т. Шчарбакова і інш.**

# БЕЗ АЛЬТЭРНАТЫВЫ. БЕЗ АПАЗІЦЫІ. АЛЕ — З НАДЗЕЯЙ

## З XI З'ЕЗДА КАМПАЗІТАРАЎ БЕЛАРУСІ

НЕНАВУКОВЫ прагноз — маўляў, гэта іх апошні з'езд — праверыць можна будзе толькі праз 4 гады. Каштоўнасць створанай музыкі правяраецца праз дзесяткі гадоў... Дык мо пагаворым без прагнозаў і без «зазірання ў вочы» Яго Вялікасці Часу — пагаворым, гледзячы ў вочы звычайнаму й няпростаму сённяшняму дню?

А сённяшні дзень — гэта як ніколі насычаныя з'ездаўскія канцэртныя праграмы, у якіх, па розных прычынах, былі перастаноўкі, замены й нават прыкрыя адмены /не прагучаў шэраг цікавых і чаканых твораў/.

Сённяшні дзень — гэта зусім відавочныя сімптомы разладу ў супольным кампазітарскім жыцці. З'ездаўскае прадоўжыў плённы пошук у новым творы — Канцэрце для аргана і ўдарных інструментаў. Віталі ўжо вядомую 8-ю сімфонію Д. Смольскага і дэбют на справаздачным форуме У. Каральчука з «Сумным канцэртам» для флейты і аркестра...

Са светлымі астраўкамі ў нашым штодзённым напружаным палітычным і эканамічным жыцці параўнаў з'ездаўскія канцэрты старшыня праўлення Саюза кампазітараў І. Лучанок. Разгорнуты даклад, з якім выступіў ён у заключны дзень з'езда, цалкам адпавядаў жанру справаздачы, насычанай шматлікімі прозвішчамі, фактамі. Зыходзячы з магчымасцяў газеты, мы падрыхтавалі пераказ даклада: гэта дасць чытачу хоць і не поўнае, але пэўнае ўяўленне пра стан беларускай прафесійнай музыкі ды дзейнасць СК у апошнія гады.

пасяджэнне пачалося пазней прызначанай гадзіны, бо для кворуму не хапала дзесятка паўтара членаў саюза, прыходу якіх з надзеяй чакала найбольш дысцыплінаваная частка творчай грамады. Ну, а пры фарміраванні спісу кандыдатур у новае праўленне высветлілася, што некаторыя сталыя й паважаныя «праўленцы» па тры гады не ходзяць на саюзаўскія сходы, ігнаруюць музычныя прэм'еры і фестывалі, творчыя дыскусіі, дый з'езд, выбары кіруючых органаў, а ўрэшце — сам саюз. /Праўда, ад членства ў ім чамусьці не адмаўляюцца/.

Сённяшні дзень — гэта і ўсхваляванае выступленне З. Мажэйкі, якое засведчыла, што праблем у беларускіх этнамузыколагаў з гадамі не паменела. Гэта й нараканні Р. Суруса на няўвагу Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі да творчасці беларускіх кампазітараў. Гэта і публічная заява В. Капыцькі пра свае выхадзіны з цяперашняга саюза і ягоная прапанова ладзіць кампазітарскія стасункі на аснове іншай, заходняй мадэлі творчага супольніцтва. Гэта і прэтэнзіі прэзідэнта Беларускай асацыяцыі сучаснай музыкі А. Соніна да кіраўніцтва СК, якое, тым не менш, паспрыяла ўзнікненню і сталенню АСМа менавіта «пад крылом» саюза. Гэта і палымяная ды канструктыўная прамова В. Войціка, які зрабіў іншага звярнуў увагу І. Лучанка на неабходнасць стварэння здаровай апазіцыі кіраўніцтву, каб спажывецка-ўтрымальніцкія тэндэнцыі не замянялі творчаму духу ў жыцці саюза...

Наяўнасць пазіцыі спараджае апазіцыю, якая можа прапанаваць альтэрнатыву... Палітычная лексіка ўтрываецца ў жыццё творчага саюза, ды яшчэ прывід шчэміцца — той, які ўжо блукае па краіне, — прывід рынку. Але ёсць надзея, што музыка захавае сваю разнастайнасць і самакаштоўнасць, якую сілкуюць не апазіцыйныя ідэі або непрадказальныя альтэрнатывы, а жывіць вечны й невытлумачальны плюралізм талентаў.

Ёсць надзея, што захавае яна і слухача. Бо з'ездаўскія канцэрты праходзілі не ў пустых залах. Людзі прыходзілі. Дзівіліся смелай фантазіі Г. Гарэлавай у Канцэрце для трубы. Як падзею трактавалі Сімфонію N 1 С. Бельцюкова. Віншавалі А. Багатырова з класічнай Санатай для кантрабаса і фартэпіяна. Апладзіравалі А. Залётневу, які, натхнёны поспехам сваіх колішніх прэм'ер — Канцэрта для ўдарных і Трох кадэнцый для аргана, —

ЗВЫЧАЙНА агляд творчасці па жанрах, заўважыў І. Лучанок, мы пачынаем з музычнага тэатра. Пасля пастаноўкі оперы «Дзікае паляванне караля Стаха», адзначанай Дзяржаўнай прэміяй Беларусі, У. Солтан напісаў яшчэ дзве новыя оперы. Будзем спадзявацца на іх шчаслівы сцэнічны лёс. На атрыманне Дзяржаўнай прэміі 1993 г. ДАВТам вылучана опера А. Бандарэнкі «Князь Наваградскі», прэм'ера якой сталася яскравай з'явай мінулага сезона. З поспехам ідзе опера Я. Глебава «Майстар і Маргарыта». Чакаецца прэм'ера балета А. Мдзівані «Рагнеда». Спадзяёмся, што і надалей у опернага і балетнага тэатраў будзе плённае супрацоўніцтва з беларускімі кампазітарамі, а клопаты пра замежныя гастролі будуць суіснаваць з клопатамі пра нацыянальны рэпертуар.

15-ты сезон ідзе ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі «Несцерка» Р. Суруса, што можа ўжо лічыцца своеасаблівым дасягненнем. Поспехам у гледачоў карыстаецца таксама мюзікл «Джулія» У. Кандрусевіча. Між іншым, у Брэсцкім драматычным тэатры пастаўлена опера-вадэвіль В. Кандрасюка «Падман за падманам» паводле А. Грыбаедава, а ў Гомельскім — ягоны ж мюзікл «Гіпапатам» /на вершы беларускіх паэтаў/.

Нарэшце, дзіцячы музычны тэатр-студыя «Казка», які ўзначальвае Г. Аляксандраў, парадаваў першай беларускай пастаноўкай — паэтычнай операй В. Войціка «Вясновая песня». Дзіцячыя оперы Э. Казачкова з вялікім задавальненнем спяваюць і граюць самі дзеці — вучні СШ N 1 г. Мінска; «Пра тое, што было» /таксама ў дзіцячым выкананні/ запісана на БТ.

У тэатры драматычным апошнім часам было створана цэлае сузор'е спектакляў з цікавай музыкай С. Бельцюкова, У. Кур'яна, У. Кандрусевіча, А. Залётнева, А. Елісеенкава, В. Капыцькі, В. Кандрасюка.

ЗАТЫМ дакладчык спыніўся на здабытках беларускіх кампазітараў у жанры сімфоніі.

Глыбіню і адначасова дэмакратычнасць пры падыходзе да трагічнай тэмы можна бачыць у 8-й сімфоніі Д. Смольскага з вершамі І. Бродскага, першае ж выкананне якой моцна ўзрушыла слухачоў. Нетрадыцыйнасць формы, жанравых асацыяцый, пошукі новай прыгажосці вызначаюць камерную сімфонію В. Войціка «Апошняя восень паэта» /для сапрана, барытона і камернага ансамбля/ на вершы П. Верлена ў перакладзе М. Багдановіча. Высокі прафесіяналізм і творчая вынаходлівасць улацівыя 2-й сімфоніі У. Дамарацкага. Сучаснасць сродкаў з'яўляецца візітнай карткай сімфоніі С. Бельцюкова «Гравюры» для хору і аркестра, натхнёнай ілюстрацыямі Скарынавых кніг. Своеасаблівасць нацыянальнага характару, выкарыстанне прыёмаў кінамузыкі робяць адметнымі сімфонію У. Кандрусевіча «Плач перапёлкі» для хору і аркестра. Незвычайная па задуме і тэмбравым вырашэнні 4-я сімфонія А. Соніна «Музыка для Мандэльштама», напісаная для фартэпіяна сола.

Рознабакова, шмат у чым нечакана акрэслена скарынаўская тэма ў 3-й сімфоніі У. Дарохіна «Францыск Скарына: жыццё і бессмяротнасць», у сімфоніі Я. Паплаўскага «Вечнае святло» /«Lux aeterna»/, у містэрыі А. Літвіноўскага «Францыск» для баса і аркестра. Прыемна, што да нараджэння гэтых буйных твораў мае дачыненне Міністэрства культуры, якое своечасова абвясціла конкурс на лепшы твор да юбілею Скарыны.

Адным з першых да трагедыі сталінізму звярнуўся Ф. Пыталеў у сваёй 8-й сімфоніі «Памяці ахвяраў сталінізму». На з'ездзе ён прадставіў 10-ю сімфонію — «Чорная быль». Прэміяй прафсаюзаў Беларусі адзначана актуальнасць тэмы ў 4-й сімфоніі К. Цесакова «Курапаты».

Нагадаўшы таксама нядаўна створаную 6-ю сімфонію Я. Глебава і 4-ю сімфонію А. Елісеенкава для габоя і камернага аркестра, І. Лучанок зазначыў, што ўжо сам пералік, да таго ж далёка не поўны, дазваляе ўявіць напрамкі ды маштабы развіцця беларускай сімфоніі — жанру вельмі ёмістага, шматаблічнага і, трэба падкрэсліць, на сённяшні дзень вядучага ў нашай музыцы.

Сярод здабыткаў у іншых сімфанічных формах дакладчык назваў «Цэзій-137» В. Кузняцова, эскізы Я. Паплаўскага «Поразава», «Супрэматызм» Н. Голубевай, паэму «Чытаючы Васіля Быкава» Г. Вагнера, «Уяўленне і плач аб пакінутай вёсцы» У. Дарохіна. Жанр канцэрта ўзбагацілі творы Г. Вагнера, У. Дамарацкага, Г. Гарэлавай, У. Кур'яна, С. Бельцюкова, У. Каральчука, А. Залётнева. Нягледзячы на цяжкасці з выкананнем, у перыяд паміж з'ездамі развіваліся і вакальна-сімфанічныя жанры, у першую чаргу кантата. У якасці ўзорных можна назваць «Куранты» В. Капыцькі, «Тысяча гадоў надзеі» ды «У год сусветнага пажару» /твор адзначаны Дзяржаўнай прэміяй/ Г. Гарэлавай.

РАЗВІЦЦЁ камернай музыкі ў апошнія гады ў значнай меры арыентавалася на ансамбль сапраўды сусветнага ўзроўню — «Класік-Авангард». Дзякуючы яго кіраўніку У. Байдаву ажылі многія складаныя творы беларускіх аўтараў, прычым загучалі на высокім мастацкім узроўні. Другім арыенцірам для нашай камернай музыкі было папаўненне рэпертуару сольных выканаўцаў ды рэпертуару музычных вучылішчаў і школ. У гэтай галіне працавалі практычна ўсе кампазітары, вылучыць можна імёны Г. Вагнера, Г. Гарэлавай, Р. Суруса, Э. Казачкова, В. Карэтнікава, К. Цесакова, Л. Мурашкі.

УСЕ ПАМЯТАЮЦЬ, як раней крытыкаваліся харавыя калектывы за нядбайныя адносіны да творчасці беларускіх кампазітараў. Прыемна адзначыць змены ў лепшы бок. У канцэртах з'езда ўдзельнічалі тры хоры: зусім малады Мінскі абласны /Маладзечна/ пад кіраўніцтвам А. Шута, Дзяржаўны камерны пад кіраўніцтвам І. Мацюхова і знакаміты калектыў прафесара В. Роўды. Першы з'ездаўскі канцэрт, які прапанаваў слухачам хор з Маладзечна, выклікаў, без перабольшвання, буру авацый. Гучалі творы Ю. Семяняка, І. Кузняцова, Л. Мурашкі, М. Літвіна, У. Карызны, Э. Казачкова, А. Туранкова, М. Равенскага, У. Солтана... Хор пад кіраўніцтвам І. Мацюхова выканаў не з меншым поспехам творы А. Бандарэнкі, С. Бельцюкова, А. Навахросла, У. Карызны, В. Кузняцова, Э. Наско. Калектыў пад кіраўніцтвам В. Роўды удзельнічаў у выкананні сімфоніі N 1 «Гравюры» С. Бельцюкова.

Нейкі зрух у «харавым цэху» адбываецца.

На жаль, у гэты працэс не ўключаецца Акадэмічная харавая капэла імя Р.Шырмы, якая мае магчымасць больш інтэнсіўна працаваць над буйнымі творамі, і хацелася б, каб побач з класікай у рэпертуары шырмаўцаў пастаянна былі беларускія араторыі і кантаты, буйныя хоры.

ШТО ДАТЫЧЫЦЦА нашай песеннай культуры, эстраднага жанру наогул... Прафесіяналы разумеюць, што ён **вельмі складаны**. Яркую мелодыю-прамень, шчыры, мудры, ад сэрца радок стварыць можна не кожны дзень.

Чатыры гады таму кампазітары былі ў роспачы перад так званым «рынкам» у галіне эстраднай музыкі. Але беларуская песня змагла выстаяць і ўмацавацца. Пра тое, што яна мае перавагу перад суседзямі, Расіяй ды Украінай, гаворыць тое, што ў двух фестывалях «Славянский базар», дзе праводзіліся нацыянальныя дні рэспублік, наша Беларусь гучала двойчы і канцэрты былі прызнаныя лепшымі з мастацкага пункту гледжання.

Значнай падзеяй стаўся фестываль беларускай песні «Маладзечна-93», які сабраў на гала-канцэрце 40 тыс. гледачоў і трансліраваўся па спадарожнікавым ТБ на Захад. У Расіі, ЗША, Германіі, Польшчы, Італіі, Францыі выконваліся песні Я. Глебава, У. Будніка, А. Елісеенкава, Э. Зарыцкага, Л. Захлеўнага, В. Іванова, У. Мулявіна, В. Раінчыка, Э. Ханка, А. Чыркуна, Д. Яўтуховіча...

І. Лучанок падзякаваў выканаўцам — Дзяржаўнаму канцэртнаму аркестру, студыі «Сябры», ансамблям «Верасы», «Песняры», калектывам абласных філармоній. А таксама адзначыў працу музыканта Канцэртнага аркестра І. Паліводы — ягонымя поп-оперы «Максім» з вершамі М. Багдановіча і «Беларушчына» на вершы Купалы.

Засяродзіўшыся на праблемах, прамоўца зазначыў, што некаторыя т. зв. гала-канцэрты, фестывалі выяўляюць не толькі нізкі, але й антымастацкі ўзровень так званай эстрады. Як правіла, у арганізацыі такіх «шоу» ўдзельнічаюць і самі кампазітары, і рэдактары, музычныя рэжысёры, работнікі Міністэрства культуры. Ім і карты ў рукі: больш жорсткі, нягледзячы ні на што, адбор. І яшчэ, як падкрэсліў І. Лучанок, «у парадку самакрытыкі»: у апошні час стварыць песню ўсенародна любімую не ўдалося. Яркі прыклад — нацыянальнага гімна пакуль так і няма.

Дрэнна развіваецца наша інструментальная эстрада, а ёсць жа выдатны калектыў — Дзяржаўны канцэртны аркестр.

ВЯЛІКУЮ ЎВАГУ надае праўленне СК праблемам прапаганды беларускай музыкі, дзеля чаго неаднойчы сустракалася з кіраўніцтвам Беларускай філармоніі ды Міністэрства культуры, прадстаўнікамі музычных рэдакцый БТ і радыё. Ёсць пэўныя зрухі. /Цыклы тэлеперадач, прысвечаныя музыцы нашых кампазітараў, запісы новых твораў беларускіх аўтараў аркестрам Белтэлерадыёкампаніі, штодзённыя радыёперадачы, у тым ліку «Музычны канал»/.

Але ёсць і праблемы, якія неаднаразова СК ставіў перад кіраўніцтвам філармоніі ды Міністэрства культуры. Зразумела, што азначае нацыянальная музычная культура ў духоўным жыцці нацыі, кожнага грамадзяніна незалежнай суверэннай дзяржавы. Просьба ж у кампазітараў адна: каб такія калектывы, як аркестр філармоніі, капэла імя Р. Шырмы ды інш., павярнуліся тварам да беларускай музыкі і зрабіліся па сутнасці сваёй дзейнасці нацыянальнымі калектывамі. А для гэтага трэба толькі, па-першае, выконваць на працягу ўсяго сезона, а не толькі, як кажуць, «з нагоды», нацыянальную класіку: творы Я. Цікоцкага, М. Аладава, В. Залатарова, А. Багатырова, П. Падкавырава і г. д. Падругое, выконваць сучасную музыку беларускіх кампазітараў: можна прапанаваць для шырокай прапаганды сто партытур, за якія не сорамна будзе нікому. Па-трэцяе, ставіцца да гэтых партытур па-мастацку ўважліва, каб усё, што задумаў кампазітар, пачуў слухач. /Дакладчык мусіў казаць пра не заўсёды здавальняючы ўзровень выканання філарманічным аркестрам твораў беларускіх кампазітараў, адчувальную абыякавасць да іх/. І, па-чацвёртае, — каб падчас гастроляў філарманічных калектываў за межамі Беларусі гучала і нацыянальная музыка.

Калі ў бліжэйшы час нас не пачуюць у філармоніі і міністэрстве і не зменяць карэнна свайго стаўлення да нацыянальнай музыкі, мы будзем, запэўніў І. Лучанок, афіцыйна прасіць урад рэспублікі пераарыентаваць грашовыя датацыі, якія даюцца філармоніі, на прапаганду найперш беларускай музыкі. Іншага выйсця няма, бо каб не давялося нам увесь час спачатку зніштажаць, а потым адраджаць.

І яшчэ. Хацелася б прынцыповых змен у дзейнасці Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Міністэрства замежных спраў, прадстаўніцтва рэспублікі пры ААН і да т. п. Досыць прадстаўляць у свеце нашу найбагатую культуру прымітыўнымі падробкамі пад нацыянальнае ці толькі самадзейнымі калектывамі, быццам мы жывём не ў цэнтры Еўропы, а невядома дзе. У невялікіх канцэртах маглі б гучаць нашы цудоўныя камерныя творы — рамансы на вершы беларускіх паэтаў, інструментальная музыка, у вялікіх канцэртах — адпаведныя творы.

З трыбуны з'езда прагучала шчырая падзяка адданым сябрам — выканаўцам, якія заўсёды дапамагаюць кампазітарам у творчасці: гэта і аркестры «Няміга» Акадэмічны імя І. Жыновіча, духавы — Міністэрства абароны, і маладыя калектывы: «Беларуская Капэла», Гродзенская гарадская капэла, сімфанічны аркестр і камерны хор у Маладзечне, народны аркестр «Менск»... І многія, многія саліcты.

ЯШЧЭ АДЗІН БОК дзейнасці СК у прапагандзе беларускай музыкі — работа камісіі музыказнаўства. Сярод новых формаў музычна-асветніцкай дзейнасці — выязныя пасяджэнні прадстаўнікоў камісіі ў абласных цэнтрах /ініцыятары — Г. Глушчанка, Б. Смольскі, Т.Дубкова, К.Сцепанцэвіч, Р. Сергіенка/. Музыказнаўцы Р. Аладава, Т. Дубкова, Р. Сергіенка, В. Савіцкая, Г. Глушчанка былі актыўнымі арганізатарамі Міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі на тэму «Айчынны авангард у кантэксце сусветнага мастацтва XX ст.» /Мінск, 92 г./. У міжнародных канферэнцыях удзельнічалі таксама Т. Шчарбакова, К. Сцепанцэвіч. Музыказнаўцы супрацоўнічалі з рэдакцыямі газет і часопісаў, рыхтавалі радыё- і тэлеперадачы, удзельнічалі ў выданні навуковай і даведачнай літаратуры, падручнікаў. /Трохтомнік «Музычны тэатр Беларусі», «Беларуская музычная літаратура» і інш./.

Маштабы дзейнасці фальклорнай камісіі СК характарызуюцца навуковымі працамі З. Мажэйкі, Т. Варфаламеевай, Л. Мухарынскай, Т. Якіменкі, выпускам пласцінак з запісамі беларускага музычнага фальклору на фірме «Мелодия», падрыхтаванымі З. Мажэйкай разам з кінематаграфістамі фільмамі «Пранясі, Божа, хмару» /прыз Міжнароднага кінафестывалю ў Пярну/ і «Крывыя вечары». Старшыня камісіі З. Мажэйка стала лаўрэатам III Музычнага конкурсу імя акадэміка Б. Асаф'ева, а на XI Міжнародным з'ездзе славістаў у Браціславе яе абралі чальцом Міжнароднага камітэта славістаў.

ПРАПАГАНДА беларускай музыкі праз правядзенне музычных вечароў, творчых сустрэч была б больш актыўнай, калі б былі сродкі. Кампазітары выступаюць без аплаты, а вось выканаўцы — не пагаджаюцца, дый правільна робяць: за працу трэба плаціць. Раней прафсаюзы мелі грошы на культурныя мерапрыемствы, сёння не дапамогуць і прафкомы, бо такіх сродкаў цяпер у іх няма.

Гаварылася ў дакладзе і пра тыя праблемы, што ўжо не адзін год, а то і не адно дзесяцігоддзе, «баляць» і вымагаюць увагі: адсутнасць нотнага выдавецтва, студыі гуказапісу, годнага будынка для саюза, адсутнасць парадку ў абароне аўтарскіх правоў... Тым не менш, за між з'ездаўскі перыяд у СК прыйшлі 24 маладыя кампазітары і музыказнаўцы: гэта нямала! Усцешна, што хацяй павольна, але ладзяцца новыя кантакты з далёкім замежжам. Прыемна, што ўпершыню за мяжой /у Англіі/ выпушчаны кампакт-дыскі з беларускай музыкай — Я. Глебава, Д. Смольскага, У. Солтана.

ЗАВЯРШАЮЧЫ справаздачны даклад праўлення, І. Лучанок, прынамсі, сказаў так. Творчая незалежнасць, а мы яе маем, — гэта толькі адзін бок нашай рэчаіснасці. Ёсць і іншыя, як, напрыклад, крытычнае стаўленне да таго, што мы пішам, неабходнасць бездакорнага прафесіяналізму. Аднаго жадання ўвайсці ў сусветную культуру недастаткова, ды і жыццё ў ёй вымагае пастаянных творчых намаганняў, беспярапыннай працы — і не толькі творчай, але і арганізацыйнай, якую і павінен узяць на сябе Саюз кампазітараў. Але гэтая праца можа быць толькі галіной дзяржаўнай палітыкі. Бо мы добра ведаем і штодня, уключыўшы тэлевізар, бачым, як уплывае на асобу камерцыйнае мастацтва.

Сапраўдныя каштоўнасці трэба падтрымліваць, для іх трэба пракладаць шлях да слухача, яны ўтвараюць народнае духоўнае багацце. Калі мы адмовімся ад гэтага ці спалохаемся перашкод — нам не даруюць нашчадкі. Трэба добра ведаць і памятаць нашу гісторыю.

Хочацца спадзявацца, што пазначаныя задачы будзе мэтанакіравана вырашаць новае праўленне, — так падсумоўваў сказанае І. Лучанок, які праз пару гадзін быў на безальтэрнатыўнай аснове зноў абраны старшынёй Саюза кампазітараў.

**Падрыхтавала матэрыял С. БЕРАСЦЕНЬ**

Балет

# «ПАСЯЛІЦЬ У САБЕ СВАІХ ГЕРОЯЎ...»

***Нядаўна вярнуліся з гастрольнай паездкі па Японіі салісты ДАВТа — народная артыстка Беларусі Інэса Душкевіч і Веніямін Захараў, з гутаркі з якім мне давялося даведацца, што артысты ўдзельнічалі ў гала-канцэрце зорак сусветнага балета. Імёны іншых удзельнікаў — М. Плісецкая, Ф. Рузіматаў, Л. Семяняка, І. Мухамедаў, Т. Куматава... Артысты пабывалі ў Токіо, Нагоі, Осака, Канадзаве і іншых гарадах Японіі.***



Я пацікавілася ў В. Захарава:

— Якія ж уражанні ад знаёмства з Краінай Узыходзячага Сонца?

— Самы высокі ўзровень, які я калі-небудзь бачыў! Я вельмі шчаслівы, што мы, беларускія артысты, трапілі ў лік удзельнікаў гала-канцэртаў.

Японія... Лепш за Цветава пра яе ўжо ніхто не раскажа. Гэта трэба бачыць, адчуваць...

Трэба бачыць В. Захарава ў балеце А. Хачатурана «Спартак», дзе ў сцэне баляванне ён экспрэсіўна і нястрымна расплёскае свае страсці па крывавым планшэце сцэны. Партыя Краса вымагае не толькі высокага прафесіяналізму, але і значнага кругагляду. Артыст В. Захараў яшчэ вельмі малады, але ў партыі Краса ў цэлым пераканаўчы. Для яго Краса характэрныя пыхлівасць, страснасць, парывістасць і ўсепаглынальнае задавальненне ўладай.

Зусім іншым падаецца артыст у ролі Рамэо ў балеце С. Пракоф'ева «Рамэо і Джульета». Тут ягоны герой поўны юнацкага парывання, іначшая яго пластыка, іначшыя пачуцці.

«Суперзорка», «кароль танца», найвядомы французскі танцоўшчык Патрык Дзюпон пераканаль: «Танцоўшчык не можа абмяжоўвацца толькі танцам, каб танцаваць. Неабходна, каб яму было што сказаць. Добры танцоўшчык — той, хто пасяляе ў сабе сваіх герояў і жыве іхнім жыццём».

Да гэтага імкнецца малады саліст Веніямін Захараў.

Першая вядучая партыя /люты 1989 г./ — Зігфрыд у «Лебядзіным возеры» П. Чайкоўскага — паказала, што ў тэатры з'явіўся цікавы, перспектыўны танцоўшчык, чуйны і спрытны партнёр.

Затым — гады напружанай працы і творчых пошукаў. Цяпер В. Захараў танцуе самыя розныя партыі ў балетным рэпертуары тэатра.

У «Карсары» А. Адана вядучыя партыі выконваюць «зоркі» беларускага балета. У гэтае свята класічнага танца, у гэтае буйнае фарбаў у касцюмах і дэкарацыях Захараў-Алі прыносіць вострую і таемную атмасферу Усходу. Надзіва выразныя пазіроўкі; В. Захараў імпульсіўны і ўнутрана засяроджаны; рамантычнае аблічча танцоўшчыка, музычнасць, прыгажосць пластычных ліній выклікаюць бурныя авацыі па ходзе спектакля.

У неўвядальным «Дон Кіхоце» кожны саліст, які ствараe вобраз Базіля, здае экзамен на права звацца танцоўшчыкам-прэм'ерам. Веніямін Захараў даказвае гэтае права, не маючы нават намёкаў на імпазантную «іспанцкую» знешнасць — светлавалосы, блакітнавокі, урываецца ён на сцэну, быццам выклік усім нашым уяўленням пра Базыля.

Падобна Анёлу Смерці з'яўляецца Тарэра-Захараў у фінальнай сцэне «Кармэн-сюіты» Ж. Бізэ — Р. Шчадрына, рассякаючы плашчом, быццам маланкай, натоўп. І Кармэн, і Хазэ не ў сілах супрацьстаяць яму. Ён урываецца ў іх жыццё, быццам злы рок. Малады артыст пераканаўчы ў гэтым вобразе. Ад спектакля да спектакля напаўняе яго новымі фарбамі.

Смерч піруэтаў, высокія жэтэ — танец В. Захарава ў ролі Тарэра проста цудоўны! Фінальныя сцэны балета набываюць уражлівую вастрыню і драматычны напал ад сутыкнення бліскучай абыякавасці і самазадавальнення Тарэра і трагічнай глыбіні перажыванняў Кармэн у выкананні І. Душкевіч. Вось чаму ў хваляванні заміраe зала.

Артысту дадзена сілай свайго таленту абуджаць у гледачах пачуццё далучанасці да Творчасці. Напэўна, у гэтым і ёсць сутнасць тэатра. Парыванне пачуццяў выканаўцы падхопліваецца глядзельнай залай і нараджае зваротную рэакцыю, якая натхняе артыста.

Аншлагі на балетных спектаклях сведчаць пра тое, што «нягледзячы на...» нашы маркотныя душы ўсё яшчэ прагнуць узвышанай прыгажосці і вялікай паэзіі.

**Ларыса ВІШНЕЎСКАЯ**

# НА ГАСТРОЛІ Ў ФРАНЦЫЮ

«Гэта ўзрушае!» — сказала Хілары Клінтан, пабачыўшы спектакль «Карміна Бурана», выкальна-харэаграфічнае прадстаўленне на музыку К. Орфа ў пастаноўцы мастацкага кіраўніка беларускага балета В. Елізар'ева. Менавіта гэты спектакль быў выбраны ў якасці «візітнай карткі» беларускага мастацтва для культурнай праграмы жонкі амерыканскага прэзідэнта падчас візіту Біла Клінтана на Беларусь.

Пасля спектакля Хілары Клінтан уручыла кветкі артыстам /у той вечар саліравалі вакалісты Н. Губская, М. Жылюк, В. Стральчэня, балерыны С. Гарбунова, Т. Шаметавец, танцоўшчыкі У. Даўгіх і А. Фурман/ і пашкадавала, што не мае магчымасці больш грунтоўна пазнаёміцца з трупай. А таксама зазначыла, што вельмі хацела б пабачыць беларускіх артыстаў на гастролях у Амерыцы.

Поўнасцю далучыўшыся да ацэнак госці, хачу звярнуцца да айчынных прыхільнікаў балетнага мастацтва: шаноўныя, спяшайцеся пабачыць балетныя спектаклі, пакуль нашы артысты яшчэ выступаюць на сцэне роднага тэатра. Бо графік замежных гастроляў на гэты сезон вельмі напружаны.

У лютым беларускі балет на дзесяць дзён выпраўляецца ў Польшчу, дзе ў Варшаве, Познані, Лодзі будуць паказаны «Балеро» М. Равеля, «Кармэн-сюіта» Ж. Бізэ — Р. Шчадрына /ды вялікая канцэртная праграма. У сакавіку — Францыя і Швейцарыя. Аматары харэаграфічнага мастацтва ў Жэневе, сусветна вядомых Канах і Ніцы, шэргу іншых гарадоў змогуць убачыць у выкананні нашых артыстаў «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага і пракоф'еўскі балет «Рамэо і Джульета».

А наступны, 1995 год, абяцае трупе шмат хваляванняў, незабыўных уражанняў і запатрабуе максімальнай самааддачы. НА ПРАЦЯГУ МЕСЯЦА ПЛАНУЮЦЦА ГАСТРОЛІ БЕЛАРУСКАГА БАЛЕТА Ў ПАРЫЖЫ, адной з агульнапрызнаных балетных сталіц свету. Для выступлення нашым артыстам будзе прадастаўлены самы вялікі тэатр французскай сталіцы — Пале дэ Кангрэ. Парыжскія балетныя крытыкі і аматары харэаграфічнага мастацтва, вядома, маюць магчымасць параўноўваць і аналізаваць: акрамя таго, што ў Парыжы выступаюць многія вядомыя харэаграфічныя калектывы, балетная трупа Гранд-Апера мае зараз рэпутацыю адной з найбольш моцных і перспектыўных у свеце...

Але вернемся ў сёлетні год... У чэрвені на працягу 10 дзён нашы артысты будуць выступаць у Гвадэлупе, невялікай дзяржаве Вест-Індыі, якая лічыцца французскай калоніяй, а таксама, магчыма, на востраве Ямайка і некаторых астравах Карыбскага мора. Свой адпачынак у ліпені і жніўні трупа правядзе ў Іспаніі. Толькі яна збіраецца там... працаваць. З гэтай нагоды Мінск днямі наведаў іспанскі імпрэсарыо.

Такім чынам, на зямным шары засталіся толькі тры кантыненты, не заваяваныя беларускімі артыстамі балета: Амерыка, Аўстралія, ну і, вядома, Антарктыда...

**Т. МУШЫНСКАЯ**

Вячаслаў АДАМЧЫК

# БЕРАЖЫ ЯГО, БОЖА!



## СТАРОНКІ З ДЗЁННІКА

**Пятніца, 15 сакавіка 1968 года.** След ад лыжаў на счарнелым насце замецены новым снегам, сіняватым і чыстым. За пагоркі, у зацішак лагчынаў і яраў туляцца голыя кусты. Вусцішна-нямы, яшчэ не жылы шара-панельны мікраён падступае да палявое дарогі, абапал якой звініць сухі леташні быльнік. У чорных праёмах вокнаў і дзвярэй густа, нібы ў ружова-хваёвым лесе, шуміць вецер. Палявая дарога ў нарасцях мутнага лядку завалена чорнымі трубамі, друзам, бітаю цэглаю, ажно страшна глядзець на чалавечы прагрэс. Так наступаюць, няшчадна руйнуючы палявыя дарогі, падразаючы пакатыя грудкі, выварочваючы гліну, нібы па-жывому паласаючы цела зямлі, непрытульна-халодныя муры горада на затоеную ў чорных прысадах, знябожаную вёсачку. А за вёсачкаю — ужо на нашу мову, быт, норавы, песні, паданні, забабоны, замовы... Так паступова вынішчаемся мы — беларусы. Тут ужо жыцьме іншы чалавек, прагматычны і карыслівы. Яго не будзе абыходзіць ні наша скалечаная мова, ні нашая, зарослая дзяцеліны палявая дарога, што ўзбягае з яру на лабаты грудок.

Як крыўдна і горка думаць, што жывое зялёнае поле ўсё больш і больш залівае гарачы, топкі, як багна, руды асфальт і халодна-цвёрды, як сталь, шары бетон, бо ім, прагматыкам, патрэбна толькі хуткасць, каб нічога не бачыць, каб перад вачмі ўсё злівалася ў шарую безкалёрную стужку.

Але ж куды і насустрач чаму так імкліва шыбуе сённяшні чалавек?

**Чацвер, 21 сакавіка 1968 года.** Мужчына ў тралейбусе: белы, амаль бяскроўны твар у жаўтлява-карычневым рабацінні, губы таўставатыя і выцягнутыя, нібы ён хоча пацалавацца, на кончыку даўгаватага носа кусцік чорных валасоў. Зрэшты, самы звыклы чалавек, а запомніўся.

**Субота, 18 мая 1968 года.** Каралішчавічы. Росны ранак пасля дожджыку, камарыны тугі звон, нібы хто рве тонкую нітачку. Як у грайку — між дзвюх тронак перынка травы, — грае невядомая мне пташачка. Чмель садзіцца на крэмава-карычневы кілішачак гравілату. Не ведаю чаму, але нейкай асаблівай, калі не сказаць таямнічай любоўю люблю гэтую непрыкметную раслінку, мо таму, што яна была спадарожнікам маіх дзіцячых і падлеткавых гадоў, мае неадступнае адзіноты і смяртэльнага смутку, як і раскалыханая ветрам слепата /ветраніца/ у замшэлых ядлаўцовых кустах, яе белыя, разлітыя вясною азёрцы. Улетку майму шасцігадоваму пастухоўству спадарожнічала конская ў белых кутасіках цыбуля і сівая вострая, што рэзала пальцы, асака, ды жалосна-адчайны плач чубатае кнігаўкі, што да бясконцай нудоты неадчэпна вілася нада мною.

Пры сцежцы, дзе на леташняе дубовае лісце чуйна пакрапвае дажджавая раса, тонкі дубок абвіў маладую елку. На мокрым яловым камлі іскрацца бурштынавыя нарасці смалы. Схаваўшы пад лісце белыя дробныя кубачкі, цвіце бруснічнік. Гэтакія ж кубачкі, толькі ліловыя, і гэтаксама верхам уніз — на светла-зялёным чарнічніку. Зноў скупы, не вельмі прыкметны знак майго дзяцінства. Як помняцца яны, кілішачкі белых і ліловых кветак, а разам з імі кіслы смак цёплых, налітых сонцам цёмна-агністых, трохі сопкіх ягадаў, што вісяць цэлаю жменькаю пад бліншчаста-зялёным драпастым лістком. Таксама было не меншае шчасце знайсці іх на лясным прыгрэве сярод кучаравага, гафтаванага ліловымі кветачкамі верасу.

І каля жоўтага драўлянага дамка, рубленага з кругляга дрэва, бачыш светла-ліловы куст бэзу. Прыгадваецца ўжо Ван Гог, або магілкі. Чамусьці яны стаяць поруч — мастацтва і смерць.

**Пятніца, 24 мая 1968 года.** Вывадкі маладых, у жоўтым пушку, качанят абгароджаны драцянаю сеткаю. Ім рэжуць траву. А над імі, на сліве, цэлы сівы клубок вусеняў, таксама, мусіць, пражорлівых, бо зараз папаўзуць абʼядаць лісце. Яно ўсё суладна ці гарманічна ў прыродзе.

**Субота, 14 чэрвеня 1968 года.** Зялёнае. Ганалес. Раненька, толькі-толькі заднела, але яшчэ не згасла адзінокая востра-калючая зорка, у насцярожаным лесе скрыпуча, як нямазанае кола ў возе, — ці-р-р—, ці-р-р-р-у-ў — пачала падсвістваць невядомая мне пташачка. А потым усю гэтую шчыра-даверлівую песню перарвала варона, дзяркатa і ўладна закаркаўшы, як бывае дзе каркне начальства, перапыніўшы і заглушыўшы нашу песню. Аднак угоднік і за гэта карканне лісліва падхваліць начальства.

**Панядзелак, 16 чэрвеня 1968 года.** На хвойках ужо вялікія ружовыя стрэлкі, і елкі з ялаўцом убраліся ў жаўтлява-зялёныя кутасікі. Вось так на некалькі сантыметраў сягнула наперад жыццё. А як жа ж мне ўгнацца за ім? І, між іншым, шпакі пакінулі дупло ў ружовай прыгожай хвойцы каля пясчанай лясное дарогі. І мне, бяскрыламу, хочацца ляцець з свайго дупла на велічны прастор. Як жыве ў чалавечай душы вечнае і недаступнае жаданне волі.

**Субота, 20 ліпеня 1968 года.** Фаніпаль. Чыгуначная станцыя. Чырвоны грузавы вагон бяжыць, разагнаны дызелем, і ў яго, як у жарабца пасля злучкі, пацяляпваецца тоўсты гумовы шланг. Звесіўшы вецце, знябожаная бярэзінка стаіць каля пышна натапыранай ліпы. На пераездзе, паклаўшы руку на клуб, абыякава пазірае на наш зялёны цягнік смуглявая маладзіца з жоўтым скручаным флажком. Салдаты, паскідаўшы кашулі і пабліскваючы загарэлымі спінамі, капаюць равок — рытмічна ўзмахваюць лапатамі. На папялова-гарачай дарозе невысокі воз з сенам. На ім маладая працавітая пара — напэўна ж мужык з жонкаю. Воз паволі паплыў у запалавелае прытомлена палеглае жыта, як у вечны акіян сялянскага нялёгкага жыцця. І пара гэтая, чуючы адно аднаго на спакуслівым сене, паплыла ў гэты жытні акіян.

**Нядзеля, 25 жніўня 1968 года.** Зазірнуў на наваградскі рынак, нібы зазірнуў у свой будучы твар: слівы ў вялікіх кошыках з накрыўкамі, яблыкі ў скрынях і цэбрах, парасяты трапечуцца ў мяхах, — купцы, прыцэньваючыся, выцягваюць іх за заднія ногі. Яўрэйкі ў сетках носяць купленых чырвона-рабенькіх сытых курэй. Яшчэ не звяліся тутэйшыя майстры — ганчары, лажэчнікі, грабельшчыкі, бондары, кавалі, — яшчэ прадаюць кубельцы, дзежкі, гаршкі, лыжкі, секачы, капашкі... А над усім гэтым нядзельным кірмашом, над кіпуча-гаманкім натоўпам, тутэйшай люднасцю, грузавымі калгаснымі машынамі, прыватнымі «Волгамі», «Запарожцамі», «Явамі» з люлькамі, у якіх ледзьве ўмяшчаюцца сытыя маладзіцы з непрывычнымі для іх шлемамі на галаве, — над усім мурашыным сённяшнім вірам узвышаецца, паднята на зялёным конусе гары старажытны замак — дзве яго чырвона-ліловыя вежы з каменю і цэглы, а перад імі — светлы касцёл з чырвоным чарапічным дахам. Аж боязна думаць, колькі ж нашага люду бачылі яны з вышыні сваіх недасягальных гадоў. Колькі эпох, дзяржаў, уладароў, палітыкаў, забытых і незабытых, прайшло, прамільгнула перад імі. Але спынімся і падумаем пра тое, што яны бачаць і мяне, грэшнага...

**Пятніца, 29 жніўня 1968 года.** Кожны вечар настаўляю вуха да светла-жоўтай старое «Сакты» — слухаю і заміраю сэрцам, перажываючы за Чэхаславакію. Надоечы ў рэдакцыі з'явіўся Пестрак, прынёсшы копію свайго даносу на мяне /арыгіналы ён адсылае ў КДБ/. Мне тайком далі прачытаць усяго адзін сказ, дзе было напісана, што ў звязку з падзеямі ў Чэхаславаччыне ці не ўкраўся ў «Полымі» вораг у асобе Адамчыка? Першае таемнае пісьмцо на мяне склаў і адаслаў у ЦК Бачыла /мне яго копію, ціха паклікаўшы ў машбюро, дала пачытаць машыністка Эма/.

Немагчыма працаваць у рэдакцыі: нешта падазронае, пасля зацяжное п'янкі мармыча яшчэ адзін патаемны охранный осведомитель ці denuncjatar, як кажа старажытная латынь.

Тыя пісьмы, па справе якіх мяне выклікаў Ткачоў, з Саюза пісьменнікаў перасылаліся напэўна ж у жоўты дом дзяржбяспекі.

**Пятніца-субота, 6-7 снежня 1968 года.** У людным тралейбусе, вяртаючыся дадому, сціснаны і прыцоены, у светлай радасці заснаваў сюжэт аповесці і ўжо, апалены гарачынёю шчасця, запісваю яго ў растрэсены стары сшытак /новага сумысна не бяру, каб не сурочыць, у новым, ды яшчэ прыгожым, звычайна не пішацца/, — ажно дваццаць два раздзелы. Назва пакуль што ўмоўная — «Ледзі Макбет Ятранскай воласці». Працы на цэлы год. Памажы, Божа!

**Нядзеля, 15 снежня 1968 года.** Надвячорак. Кальварыя. Неба над дрэвамі яснае, балюча і агніста-чырвонае. Сонца ўжо не відно. І там, дзе яно было, датлявае пякучы агонь, і дрэвы стаяць голыя, з чорнымі камлямі, як абгарэлыя.

На высокіх кронах — чорныя грачыныя гнёзды, рыхтык нечыя пазакіданыя шапкі. Гракі сядзяць на тэлеграфных слупах і на яблыньцы каля нечай прыгробленай хаткі. Яны, мусіць, укладваюцца ўжо нанач.

Чырвань ледзь існее на вежы касцёла. Снег ужо ў вечаровай фарбе, нібы абліты сінькаю. Перад доўгаю, атуленаю чорнымі голымі садамі вёскаю /Цівялі/ белае нярушанае поле канчаецца цёмна-жоўтаю, падкопанаю экскаватарам стромаю. Там вуркоча, надрыўна гудзе і пастрэльвае самазвал. Самалёт, як голуб, прытуліўшы крыллі, зніжаецца на пасадку. І чорна-шараю, ачышчанаю ад снегу шашою бяжыць конь, высока выкідваючы пярэднія ногі і нагінаючы галаў. Фыркае, сапучы з ноздраў гарачаю параю.

Фурманка прабегла, абагнаная патокам машын, і пакінула ў душы даўні незабыты смутак па іншым жыцці, палявой, замеценай снегам дарозе, адзінокім хутары, куды я хадзіў праведаць нашмат малодшых за мяне стрыечных братоў: іхняя маці, мая дзядзіна, сабраўшы, як у нас кажуць, падаянку, паехала праведаць хворага на трасу мужа — майго дзядзьку Юзапа, што сядзеў у перасыльнай аршанскай турме. Чаму фурманка выклікала такую асацыяцыю, не ведаю, бо каня, дарэчы, на тым бедным хутары не было. У хляве стаяла адна закажанелая карова, якую я мусіў быў напаіць і накарміць.

Як варта было б напісаць пра гэтае смутнае маё падарожжа і радасць здзічэлых ад вусцішнай адзіноты дзяцей, калі я ўваходзіў у іхнюю хату. Нібы таксама ў турэмную камеру.

**Нядзеля, 22 снежня 1969 года.** Чалавек паляцеў да месяца. Цікава, што ён там убачыць? А тут, на зямлі, туман, непраглядная адлежная ноч, чорны мужчына на белым снезе, наўкруг ліхтароў ліловыя кругі, як наўкруг месяца, чорная шаша, за ёю — снег, плот, зноў чарната — там немая Кальварыя, дзе пад снегам стынуць магілкі... Так многа і так мала, нарэшце, трэба чалавеку.

**Панядзелак, 23 снежня 1968 года.** Чорныя гракі на белым снезе — адлежыць. Чытаю Бальзака, упіваючыся, як кажуць, і фразай, і выразам, і думкай, і дасціпнасцю. А ўсё пачалося з таго, што ў букіністычным аддзеле кнігарні купіў два ўцэненыя бальзакаўскія томікі /па 30 капеек кожны/ і захапіўся найперш публіцыстыкай — а вострая ж яна, як наточаная сталёвая шабля, што рэжа нават валасок! — а цяпер зачараваны яго непадкупна геніяльнай навелай пра парыжскіх музыкантаў /ці не таму, што сам колькі месяцаў хадзіў у местачковую аркестуру?/. І ўзвышаны, растрывожаны гэтым адзінокім геніяльным пакутнікам, заманулася напісаць сам і пра местачковую аркестуру, і пра суседа, вясковага музыканта, што ачуціўся ў горадзе і кожнае суботы на сваёй зялёнай гармоні выцінае полькі і абэркі — чутно праз калідор, — і кожнае суботы ў яго дапазна бяседа, госці, і кожны раз ён вядзе іх на тралейбусны прыпынак з гэтаю самаю зялёнаю гармоняю і яшчэ ў ліфце пачынае на ўсю моц іграць.

Першы раз я ўбачыў яго, прыйшоўшы аглядаць сваю новую кватэру, — ён тады якраз устаўляў замок. Здаецца, тады ён сказаў, што «работае» на фабрыцы цацак. А потым, пазнаёміўшыся бліжэй, прыносіў дарыць маёй жонцы днішчы і таўкачы, мне — казеінавы клей.

Жыве ён не ў ладах з жонкаю. Праўда, яны абое п'юць. А потым, як гэта звыкла бывае, пачынаюць біцца, а назаўтра абое прыходзяць пазычыць рубля. П'яны ён многа гаворыць і кожны раз кажа, што прыйшоў браценік, і кожны раз усё выбачаецца.

Ды як жа-ж, як тое мог і рабіў Бальзак, намаляваць жыццё ў схватцы, у змаганні з жаданнямі, што з'яўляюцца пачаткам усялякай страсці? Дзе ж знайсці тыя адпаведныя і належныя словы і перадаць імі ўсё перажытае і пачутае? Дзе?

**Нядзеля, 12 студзеня 1969 года.** Як пачаўся ад новай квадры месяца, так і не злягае мароз. Тэлефонныя правады тоўстыя, як карабельныя канаты. Белая ад інею Кальварыя. Чорныя гракі на фантанах перламутравых дрэў. Бела-сіняватае нярушанае поле. Белая вёска — прысады і стрэхі.

Узбоч чорнага асфальту, канаваю, едзе фурманка — у каня заінелі персі. Фурман ідзе поруч, падняўшы цёплы каўнер.

Прыпамінаюцца даўнейшыя ганарыстыя коні з чырвонымі каснікамі ў грывах і ў холках, чорныя выштукаваныя або прыгожа выплеценыя з ракітніку вазкі, фурманы ў шарых суконных бурках з чырвонымі або блакітнымі ў сярэдзіне башлыкамі, шастуны ў бурбалках званкоў. І маё маленства, міма якога праімчаліся ганарыстыя коні з мілагучнымі званкамі і шастунамі, каб назаўсёды пакінуць у маёй памяці гэты густы, як гуд пчалінага рою, звон вясёлых шастуноў... І нібы выпадковым кадрам у памяці выплыў мой дзядзька Ян Баравік, якога пазалетась падтаптаў, скінуўшы з сябе, спуджаны жарабец, на вачах у здурнелых п'яных баб, што рашылі падзеразаваць ды пажартаваць, спудзіўшы яшчэ добра неабʼезджанага жарабца. Так іншы раз нечаканаю бядою канчаюцца нашы беларускія вяселлі ды хрэсьбіны... Як палярныя, так і неадлучныя яны — радасць і гора.

**Серада, 22 студзеня 1969 года.** Учора была Вадохрышча, даўнейшае свята, калі кідалі ў калодзеж выструганыя драўляныя крыжыкі. Помню, схадзіўшы раненька па ваду, іх прыносіў у вядры бацька. Помню раскалыханую ваду ў вядры і на ёй ружаватыя драўляныя крыжыкі.

У гэты ж дзень абʼязджалі і крапілі святою вадою маладых коней.

Мароз. Пры шашы так міла, па-даўняму ныюць, гудуць тэлеграфныя слупы і на іх,

*(Працяг на стар. 14-15)*

